АГРАНОМ УЛІЦІН.

# СУД
# НАД ТРОХПАЛЁЎКАЙ

АГРО-П'ЕСА ў 1-м АКЦЕ.

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ,
перапрацаванае для Заходняй Беларусі
У. ПАВАЛКОВІЧАМ.

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА.
ВІЛЬНЯ — — — — — — 1927.

Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая 22.

АГРАНОМ УЛІЦІН.

# Суд над Трохпалёўкай

АГРО-П'ЕСА ў 1-м АКЦЕ.

ВЫДАНЬНЕ ДРУГОЕ,
перапрацаванае для Заходняй Беларусі
У. ПАВАЛКОВІЧАМ.

БЕЛАРУСКАЕ ВЫДАВЕЦКАЕ ТАВАРЫСТВА.
ВІЛЬНЯ — — — — — — — 1927.

Друкарня Я. ЛЕВІНА, Вільня, Нямецкая 22.

**Агр. Уліцін.**
(Перарабіў У. П.).

# Суд над трохпалёўкай.

*Агро-п'еса ў 1 дзеі.*

**АСОБЫ:**

**Антось Высокалітоўскі** — старшыня суда.
**Ігнась Лубіновіч**, **Сымон Сэрадэленка** — сябры суда.
**Янка Канюшына** — сэкрэтар суда.
**Мікалай Гаварушка** — абаронец.
**Вінцусь Сэпаратар** — пракурор.
**Максім Севазваротнік** — аграном-эксперт.
**Якуб Нядоля** — сьведка, трохпалёўнік, селянін вёскі Галадухі, 45 гадоў. Худы, у парванай вопратцы, з пустымі снапамі жыта.
**Язэп Бурак** — сьведка, шматпалёўнік, селянін з вёскі Весялухі, 45 гадоў Сыты, здаволены, у добрай вопратцы, з добрымі і вялікімі снапамі жыта, вікі і канюшыны.
**Рыгор Попел** — судавы возны.
**Падсудная Трохпалёўка** — старая, слабая кабета, з сівымі валасамі, у лапцёх, з доўгім кіем.

---

Сцэна прадстаўляе вялікі пакой, пасярод стол, накрыты каляровай матэрыяй; крэслы для старшыні і сяброў суду. Два столікі для абвінавальніка і абаронцы, лава для сьведкаў і асобна — для падсуднай. На сьценах партрэты беларускіх пісьменьнікаў. Пры адчыненьні заслоны на сцэне ўсе, апрача старшыні і сяброў суда, сядзяць.

**Судовы возны.** (*устаючы — да публікі*): Грамадзяне, прашу ўстаць, — суд ідзе!

**Старшыня суда.** Паседжаньне Беларускага Народнага Суда абвяшчаю адчыненым! Прашу сесьці!

Слухаецца справа па абвінавачаньню грамадзянкі Трохпалёўкі, якая на працягу блізка 400 гадоў шкодзіла сельскай гаспадарцы і ўчыніла шмат іншых злачынстваў.

Абвінавальнік, прадстаўнік, саюзу Аграномаў, Сэпаратар Вінцусь — ёсьць?

**Пракурор.** Тут.

**Старшыня.** Сьведка Якуб Нядоля, селянін вёскі Галадухі, трохпалёўнік, ёсьць?

**Нядоля.** Тут.

**Старшыня.** Сьведка, шматпалёўнік, селянін вёскі Весялухі, Бурак Язэп, ёсьць?

**Бурак.** Ёсьць.

**Старшыня.** Аграном Севазваротнік ёсьць?

**Севазваротнік.** Ёсьць.

**Старшыня.** Абаронец падсуднай, Гаварушка, ёсьць?

**Гаварушка.** Ёсьць.

**Старшыня.** Усіх сьведкаў па гэтай справе прашу выйсьці ў асобны пакой. (*Сьведкі выходзяць*).

**Старшыня.** Абставіны гэтае справы такія: (*чытае*). „Саюз аграномаў і разумнейшых гаспадароў-культурнікаў у сваіх клопатах аб дабрабыце жыхарства нашага краю зьвярнуў асаблівую ўвагу на вясковую гаспадарку, як на асноўную крыніцу істнаваньня беларускага народу. Пры гэтым знойдзена, што сельская гаспадарка ў нашай вёсцы нават пры спагадных умовах клімату і зямлі

прышла да занападу. Сярэднія ўраджаі хлеба бываюць 40-45 пудоў з дзесяціны; сена—70-80 пуд; гадавы ўдой кароў—50-60 ведзер з аднае жывёлы. Апрача такіх нізкіх ураджаяў, за апошнія гады сталі зьяўляцца на палёх шкадлівыя казюлькі, якія часта нішчаць рэшты ўраджай, ад чаго яшчэ больш павялічваецца голад, мор, пошасьці. Ува ўсім гэтым вінавата наша Трохпалёўка, якая мае блізка 400 гадоў веку і якая, зьявіўшыся на Беларусі, распачала сваю шкодную работу. Карыстаючыся цемнатой народа, бяскарнасьцю, злачынствам, яна за гэты час разбурыла сельскую гаспадарку ў нашай Бацькаўшчыне, давяла яе да занападу, што, з другога боку, дапамагло занападу іншых галін народнае гаспадаркі. У сувязі з гэтымі злачынствамі грамадзянкі Трохпалёўкі зьявілася беспрацоўе, голад, пошасьці з тысячамі ахвяр. Усе сельскія гаспадары прымушаны весьці цяжкае паўгалоднае жыцьцё. Дзеля гэтага грамадзянцы Трохпалёўцы закідаюцца наступныя злачынствы:

1. Пры агульным малазямельлі і пры вялікім ліку безьзямельных сялян, грамадзянка Трохпалёўка заўсёды пакідала пад папарам $^1/_3$ частку зямлі замест $^1/_6$ - $^1/_8$, ад чаго зьменшылася плошча пладаноснае зямлі.

2. Трохпалёўка, сеючы аднасямейныя расьліны, аднабочна высіляла і аслабляла зямлю, перашкаджала правільна выкарыстаць, як дадзенае ўгнаеньне, так і прыродную пладавітасьць глебы.

3. Трохпалёўка засьмечвала зямлю не-

карысными і шкоднымі травамі, якія зьяўляюцца злымі ворагамі сельскай гаспадаркі.

4. Трохпалёўка разьвяла шмат шкодных казюлек, якія мясцамі нішчаць увесь ураджай.

5. Трохпалёўка кепскім вырабам зямлі, аддаючы яе на папас у папары, псавала прыродную якасьць яе, робячы зямлю глыбкаватай, або пылаватай, што вельмі шкодна для ўзросту расьлін і для ўраджаяў.

6. Трохпалёўка, не дапушчаючы на поле пасеву кармавой травы і корань-плодаў, паставіла гадоўлю жывёлы на Беларусі ў такія варункі, што жывёла зрабілася дробнай, і удой панізіўся ды паменшала гною.

7. Трохпалёўка, затрымліваючы разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ўва ўсіх яе галінах, стварыла беспрацоўе, голад больш за ўсё на тэрыторыі Заходняя Беларусі.

Дзеля ўсяго гэтага грамадзянка Трохпалёўка Беларуская абвінавачваецца па 101, 182 і 245 ст. К. К. і прыцягваецца да нашага суду.

Грамадзянка Трохпалёўка! Ці прызнаеце сябе вінаватай у пералічаных злачынствах?

**Трохпалёўка.** Гр. Судзьдзя! Гаварэце, калі ласка, галасьней, бо я старая і глухая і мала зразумела, аб чым вы гутарылі і ў чым мяне абвінавачваеце.

**Старшыня** (*голасна*). Вы абвінавачваецеся ў тым, што на працягу 400 гадоў вы псавалі і аслаблялі зямлю, дзяржалі трацціну яе пад папарам, калі яе можна было выкарыстаць, пасеяўшы траву. Вы не дазвалялі

рана араць папар, чым перашкаджалі барацьбе з засьмечанасьцю палёў і недародам. Засьмецілі зямлю пустазельлем, расплядзілі шмат шкодных казюлек. Не дазваляючы сеяць кармовую траву на палёх, вы прымусілі сялянскую жывёлу галадаць, не даючы адначасна й даходу ў гаспадарцы. Вы спынілі разьвіцьцё каапэрацыі на вёсцы. Такім чынам, вы абвінавачваецеся ўва ўсіх ліхах, якія сёньня ёсьць у нашай сельскай гаспадарцы і якія пагражаюць істнаваньню Беларускага Народу. Вось у чым вы абвінавачваецеся. Ці чулі цяпер, ці зразумелі?

**Трохпалёўка** (*кашляе і чэша галаву*). Але, цяпер зразумела.

**Старшыня.** Ці прызнаецеся да гэтай віны і гэтых злачынстваў?

**Трохпалёўка.** Не, не прызнаюся. Праўда, у мяне траціна зямлі знаходзіцца пад папарам. Але-ж зямля бяз гною павінна адпачыць цераз два гады, а ня 5-8 гадоў, як гэта кажаце вы.

**Старшыня.** Абвінавачаная Трохпалёўка, вы сказалі, што зямля павінна адпачыць і ўгнойвацца. Якія-ж вы далі ёй адпачынак, калі жывёлы яе таптаді, распыльвалі і ўбівалі? Замест адпачынку—яна высыхала і высільвалася ад шкодных траў.

**Трохпалёўка.** Жывёла зямлі ня шкодзіць, ды тут яна павінна пасьціцца. У сялян няма лішняе зямлі, няма выганаў, ні лесу. З казённага, ці панскага хмазьніку сялянскую скаціну жануць вон, ды за гэта яшчэ й судзяць. Дзе-ж, па вашаму, павінна пасьвіцца сялянская жывёла? Хіба на паветры?

**Старшыня**. Скажэце сьпярша, ці вы прызнаяце, што ў сельскіх гаспадароў зямлі вельмі мала, а тымчасам вы дзяржалі трацiну яе пад папарам?

**Трохпалёўка**. Гэта ўсім вядома.

**Старшыня**. Вы прызнаяце, што сялянская жывёла на вашым папары галадуе, дзеля чаго ня можа даць гаспадару карысьці?

**Трохпалёўка**. Я... я, грамадзянін судзьдзя, старая і гэтак прывыкла, дык інача́й рабіць і не магу і не разумею.

**Старшыня**. Падсудная, можа вы растлумачыце, чаму вы не дапускалі ў вашым севазвароце такой карыснай травы, як кармовая, ды кораньплодаў, што шкодзіла сялянскай жывёлагадоўлі? Штогодным пасевам аднолькавых расьлінаў вы аслабілі і засьмяцілі зямлю некарысным траўём і разьвялі шкодных казюлек і чарвякоў.

**Трохпалёўка**. Грамадзяне судзьдзі, я старая, распачала гаспадарыць каля 400 гадоў таму. Тады людзей было мала, сенажацяў даволі і патрэбы ў пасеве травы ня было. А як-жа цяпер можна сеяць траву на полі, калі селяніну і хлеба недзе сеяць? Дзе нам аб жывёлах думаць, калі часта самім есьць нечага? Аб засьмечваньні палёў травамі, ды аб казюльках, ды жукох, ды чарвякох я нічога сказаць не магу: яны створаны богам, — і ўсе хваробы, галадоўкі — гэта таксама ад бога; калі ён не пашле дажджу ды зямелька будзе дрэнная, тады ніякія аграномы ня здолеюць дапамагчы.

**Старшыня**. Сядайце, падсудная. (*Да судовага вознага*). Папрасеце сьведку Нядолю

Якуба з яго доказамі. (*Уваходзіць Нядоля ў парваных лапцёх і парванай вопратцы, худы, ледзь ходзіць, нясе малы пусты сноп жыта, засьмечаны сарнякамі, і торбачкі з засьмечаным зельлем-насеньнем*).

**Старшыня.** Сьведка Нядоля, вы павінны даць суду ўрачыстае дакляраваньне, што будзеце казаць толькі праўду. За ілжывыя паказаньні вы будзеце прыцягнены да адказнасьці па закону. Падпішэце ўрачыста дакляраваньне! (*Дае для подпісу паперу*).

**Нядоля.** Я няпісьменны.

**Старшыня**. Тады пастаўце тутака тры крыжы. (*Нядоля бярэ няўмела пяро і дрыжачай рукой ставіць крыжы*). Скажэце, сьведка, што вы ведаеце ў гэтай справе! Раскажэце суду, як вядзецца ў вас гаспадарка, які прыбытак з яе маеце.

**Нядоля.** Ох, грамадзяне судзьдзі, гаротнае нашае жыцьцё: працуеш, працуеш, а як прыдзе зіма, дык есьці няма чаго. А тутака яшчэ падаткі, якім і лік згубілі. Добра, калі бог пашле ўраджаю, а то—магіла.

**Старшыня**. Скажэце, сьведка, сколькі ў вас зямлі, колькі душ сям'і і палеў скаціны?

**Нядоля.** Зямелькі — 6 дзесяцін, сям'і— 6 душ, жывёлы—кароўка, конь, парасё і дзьве авечкі.

**Старшыня.** Які ведзяце севазварот?

**Нядоля.** Ня ведаю, грамадзянін судзьдзя, што гэта такое за севабарот. Ніколі пра яго ня чуў, ніколі яго ня бачыў.

**Старшыня.** Севазварот — гэта ёсьць лік палёў на вашай зямлі і парадак, у якім на

кожным полі засяваецца хлеб, скажам: папар, жыта, ярына, потым ізноў папар.

**Нядоля.** А... а... цяпер зразумеў. Палёў у мяне тры, а палос 30. Так мой бацька і дзед працаваў, так і я працую.

**Старшыня.** Значыцца, севазварот у вас трохпалёвы?

**Нядоля.** Дык гэта выходзе трохпалёвы.

**Старшыня.** Цяпер скажэце, які ў вас інвэнтар?

**Нядоля.** Анвэртар?.. Ніколі ня чуў пра гэта і ня бачыў яго.

**Старшыня.** Інвэнтар—гэта прыладзьдзе, якое ўжываецца дзеля выабляньня зямлі. Гэта машыны.

**Нядоля.** Ага, разумею. У мяне ёсьць плуг, які нядаўна купіў, а перш працаваў сахой; потым дзеравяная барана, і больш нічога ня маю.

**Старшыня.** Калі-ласка, скажэце, сьведка, ці вы ніколі не падлічвалі на грошы, сколькі вы зарабляеце сваім ураджаем?

**Нядоля.** Ураджаі ў нас вельмі кепскія. Вось паглядзеце. (*Паказвае суду свае снапы*). Каб пералічыць мой ураджай на грошы, то ўсяго з гаспадаркі набярэцца на рублёў 100 золатам. На гэтыя грошы павінен я жыць з сям'ёй, карміць жывёлу, ды плаціць усялякія падаткі.

**Старшыня.** (*пытаецца ў сяброў суда*). Ці ня маеце запытаньня?

**Лубіновіч.** Скажэце, сьведка, як жывуць вашыя суседзі?

**Нядоля.** Якое там жыцьцё? Галадуюць,

за што і вёску нашу празвалі „Галадухай“. Галадуюць людзі, галадуе і скацінка. Вось тут і жыві, як хочаш (*чэша за вухам*), ды яшчэ і падаткі плаці.

**Сэрадэленка.** Скажэце, сьведка, ці ваша кароўка дае шмат малака?

**Нядоля.** Улетку хапае забяліць страву, а праз усенькую зіму посьцім. Ды як яна можа даваць малака, калі вясной яе прыходзіцца за хвост цягнуць на пашу?!

**Сэрадэленка.** Скажэце, сьведка, ці ня ведаеце вы такіх гаспадароў, якія на шасьцёх дзесяцінах жывуць добра, гадуюць 4 кароўкі і праводзяць севазварот не трохпалёвы, а шматпалёвы—з засевам траў і караньплодаў?

**Нядоля.** Такіх гаспадароў, каб на 6-цёх дзесяцінах добра жылі, ў нас, у Галадусе, няма. (*Сьмяецца*). Гэта немагчыма, каб на 6-цёх дзесяцінах гадаваць 4 каровы. Як можна сеяць траву ды караньплоды, калі для хлеба не хапае месца ў полі.

**Старшыня.** Скажэце, калі-ласка, ці ня пробавалі вы як-небудзь палепшыць сваю гаспадарку, ды павялічыць вашы ўраджаі?

**Нядоля.** Як ня пробавалі?! Штогод прывозім айца Якуба з дзяком; яны абходзяць усё поле, кропяць сьвячонай вадой, служаць малебства, але нічога не памагае. Відаць, прагнявілі мы бога.

**Старшыня.** Скажэце, сьведка Нядоля, ці быў у вас на вёсцы аграном?

**Нядоля.** Аграмон? не, ніколі пра яго ня чуў. Хто гэта такі?

**Старшыня.** Гэта адукаваны чалавек, які

ведае, як трэба гаспадарыць, каб павялічыць зыск з сельскае гаспадаркі.

**Нядоля.** Не, нам на вёсцы гэтага аграмона ня трэба, бо ён нам дапамагчы ня можа. *(Махае рукой).* Калі зямля кепская, то ніякі там агранон не дапаможа. Вось, каб нам у Галадусе ды зямелькі даць, ды падаткаў менш, то добра было-б і без аграмона. А ён нам непатрэбны. *(Махае рукой).*

**Пракурор.** Скажэце, сьведка, ці акуратна плаціце вы і вашы сяляне з Галадухі падаткі?

**Нядоля.** Ох!... гора з гэтымі падаткамі! Сэквэстратар дык і дзьвераў у нашых хатах не зачыняе. Нядоімкі за тры-чатыры гады не ўсьпяваем аплачваць.

**Старшыня.** Больш пытаньняў няма?

**Усе.** Няма.

**Старшыня.** Сядайце, сьведка. Грамадзянін судовы возны, папрасеце сьведку Бурака, шматпалёўніка, селяніна вёскі Весялухі, з яго доказамі.

(*Судовы возны прыводзіць сьведку Бурака, здаровага, у добрай вопратцы чалавека. Ен дзяржыць высокі сноп хлебных расьлін, выкі і канюшыны*). Скажэце, сьведка, сколькі ў вас зямлі, які севазварот вядзецё, які ўраджай у вашай гаспадарцы, сколькі душ сям'і, сколькі скаціны і як вы наагул жывяце?

**Бурак.** Усяго зямлі ў мяне, грамадзяне судзьдзі, 4 дзесяціны. Гэта вельмі мала. Скаціны маю: 4 каровы, каня, 4 авечкі, сьвіньню, двое парасят і 10 курэй. Сям'я мая складаецца з 5 душ. Зямля кепская, бедная, пескаватая.

**Старшыня.** Якое вы маеце прыладзьдзе для працы?

**Бурак.** З прыладзьдзя я маю толькі адзін плуг, ды жалезную барану, але я лічуся сябрам машыннага таварыства, дык ад таварыства карыстаюся радковай сеялкай, культыватарам лапчатым, бараной лугавой і іншымі. Апрача таго, лічуся сябрам Т-ва Беларускае Школы, дзе ў гуртку нам чытаюць, як лепей гаспадарыць, ды выпісываю сваю часопісь „Саху“.

**Старшыня.** Скажэце, сьведка, які севазварот вы ведзяце?

**Бурак.** Ужо дзесяць гадоў вяду шасьціпольны севазварот: адно поле—папар, угноены пад азіміну вмкай; другое—жыта з падсевам сэрадэлі; трэцяе—бульба з караньплодамі; чацьвёртае—ярына з падсевам канюшыны; пятае й шостае—канюшына.

**Старшыня.** Які ўраджай у вас з вашай гаспадаркі ад розных расьлін?

**Бурак.** На ўраджай мой, грамадзяне судзьдзі, жаліцца я не магу, хоць зямельку маю і благую. Як толькі перайшоў ад трохпалёўкі да шматпольля,—павялічылася ў мяне гною, пачаў я добра выраблящь зямлю, пачаліся і добрыя ўраджаі. Наагул я маю з дзесяціны: жыта—115 пуд., аўса—90 пуд., канюшыны — 300 пуд., бульбы — 900 пудоў, проса—90 пудоў. Грэчкі я ня сею, няпэўная расьліна. Яшчэ сэрадэля дае з дзесяціны 120 пудоў, буракоў 2800 пудоў. На грошы, калі пералічыць, то будзе выходзіць 477 р., але корм я скармліваю каровамі ды прадаю масла, дык выходзіць яшчэ больш. Лёну

я ня сею, бо сям'я ў мяне дробная, а адзін з бабай каля яго ня справіўся-б.

**Старшыня.** Чым вы, сьведка, дабіліся павялічэньня ўраджаю?

**Бурак.** Ураджай павялічыўся, калі я перайшоў ад трохпалёўкі да шматпольля, ды пачаў сеяць траву і караньплоды; гэта дало корм скаціне, а пад скацінай стала больш гною, дый лепшага. Апрача ўсяго, я добра выробляю зямлю добрымі прыладамі.

**Старшыня.** Колькі гною было ў вас і які быў ураджай да пераходу на травапасеў і пасьля пераходу?

**Бурак.** І ўспамінаць аб ураджаі да пераходу на травапасеў не хачу. Проста сьмех і толькі: жыта — 35 пуд., аўса — гэтулькі-ж, бульбы — 400 пудоў, а гною дык і 20 вазоў ня было.

**Старшыня.** Скажэце, сьведка, чаму вы перайшлі на шматпольле, ад каго вы даведаліся аб ім і хто вам дапамагаў?

**Бурак.** На шматпольле перайшоў я вось як: з трохпалёўкай жыць стала далей немагчыма; ураджаі рабіліся горш і горш, скаціна пачала драбнець. Задумаўся я тады, што рабіць, як сабе парадзіць? Перш думаў кінуць усё і ўцякаць у горад, ці ў Амэрыку. Але неяк стала жаль кідаць сваю старонку, шкода кідаць сваю зямельку. У гэты час я пачаў выпісваць сельска-гаспадарчыя часопісі, даведаўся, што людзі інакш выробляюць сваю зямельку, што ёсьць аграномы, якія дарма вучаць сялян, як лепей гаспадарыць, каб больш мець карысьці ад гас-

падаркі. Вось, да гэткага агранома зьвярнуўся і я. Раскаэаў яму, як кепска мы жывём, і стаў прасіць, каб ён дапамог парадай. Дакляраваў яму і гасьцінца даць, — але ён толькі ўсьмяхнуўся, кажучы: „відаць з вамі ніхто ня гутарыць, пакуль не дастануць хабару; але мы з табой на гэтым згодзімся, і напэўна цябе ня скрыўджу". Потым дадаў: „добра, склічце ў нядзелю сход, а я да вас прыеду". Сабралі мы сход. Прыехаў і аграном, ды адразу пачаў тлумачыць, як шкодна трохпалёўка і якую карысьць дае шматпольле з канюшынай і караньплодамі. Паехаў у поле, нарысаваў нам на паперы, паказаў, як трэба падзяліць на часткі нашу зямлю, ды што на якой частцы сеяць на працягу шасьці гадоў. Парадзіў нам зямлю перш заправіць зялёным угнаенем-лубінам. Сказаў, як яго сеяць, дзе дастаць, як загараць насеньне і інш. Мы грамадой дасталі насеньне, пасеялі, а калі лубін падрос, тады мы яго загаралі, на ім пасеялі жыта; жыта ўрадзіла сьцяна-сьцяной, да жыта мы падсеялі сэрадэлю; калі падрасла сэрадэля, увосень мы загаралі пад бульбу, кармовыя буракі і кармовую рэпу, пасьля якіх сеялі авёс з падсевам чырвонай канюшыны. У першы-ж год канюшына дала нам 250 пудоў з дзесяціны. Адразу скаціна ў нас павесялела. Пачалі мы больш угнойваць зямлю, — павялічыліся ў нас ураджаі, і зажылі мы лепш. Цяпер я часта хаджу да хаты-чытальні, якую залажыў гурток Т-ва Беларускае Школы, чытаю розныя кніжкі аб палепшаньні гаспадаркі і выпісваю сельска-гаспадарчую часопіс.

Вось і жывём цяпер весела і сыта, ды пра Амэрыку забыліся.

**Старшыня**. Скажэце, сьведка, як вы наладзілі машыннае таварыства і якую карысьць яно вам дае?

**Бурак**. Пра магчымасьць наладзіць машыннае таварыства мы даведаліся таксама ад агранома і з сельска-гаспадарчай часопісі. Мы сабраліся і пастанавілі грамадой купіць радковую сеялку, трыор, малатарню, плугі і інш. Сабралі 10 процантаў, а рэшту нам пазычылі. Цяпер мы даўно ўжо выплацілі, і машыны—нашыя ўласныя! А ведаеце, машыны вельмі карысныя. Напрыклад, сартоўка: раней сеялі сьмяцьцё, — сьмяцьцё ў нас і радзілася. Цяпер, калі чысьцім зерне, дык родзіцца чыстае жыта, а ня гірса, ды маем лепшыя ўраджаі. Вось што значыць машыннае таварыства!

**Старшыня**. Хто хоча запытацца ў сьведкі?

**Лубіновіч**. Скажэце, сьведка, ёсьць, апроч машыннага таварыства, у вас яшчэ таварыствы?

**Бурак**. Ёсьць Таварыства Беларускае школы, малачарскае таварыства, ды бычынае таварыства.

**Сэрадзэленка**. Што гэта за бычынае таварыства?

**Бурак**. А, бачыце, мы даведаліся з сельска-гаспадарчае часопісі „Саха“, што, калі бык будзе ад добрае малочнае маткі, дык і цяляты ад яго будуць малочныя. Вось, мы грамадой і пастанавілі злажыцца ды купіць быка добрай малочнай пароды. I не памыліліся. Цераз тры гады мы ўжо мелі патом-

ства куды больш малочнае, чым нашыя лаўнейшыя кароўкі! Тады мы сталі падбіраць кароў на племя вельмі асьцярожна, ды правільна гадаваць цялят, дзяржаць жывёлу ў цёплым хляве, даваць лепшы корм. Ад гэтага каровы пачалі даваць больш малака. Цяпер мае каровы даюць 180 ведзер малака, а не 50, як раней.

**Старшыня** (*да прокурора* і *абаронцы*). Ці ня маеце вы пытаньняў да сьведкі?

**Прокурор**. Скажэце, сьведка! Куды вы дзяваеце малако, калі ў вас 4 каровы і даюць яны па 180 ведзер малака?

**Буран**. Калі пачала паляпшацца наша жывёла, і ў нас зьявіліся лішкі малака, сьпярша мы ня ведалі, што з ім рабіць, бо прадаць яго было некаму. Зьвярнуліся да агранома, ён ізноў дарма дапамог: „уладжвайцё, кажа, малачарскае таварыства". Пры ягонай дапамозе дасталі мы машыны ў крэдыт, нанялі хату, злажылі ўмову, як гэта трэба па закону. Прыбыткі дастаём мы вельмі добрыя. Вырабляем масла, і нашае масла лічыцца ў Вільлі і Горадні амаль ня самым лепшым.

**Абаронец**. Дазволіце запытаць сьведку?

**Старшыня**. Калі ласка.

**Абаронец**. Скажэце, сьведка, дзе вы пасяце вашу скаціну ўлетку і як вырабляеце папар?

**Буран**. Жывёлу ўлетку я нідзе не пасу і ня маю ў гэтым патрэбы, а сею для яе на папары азімую выку, якая дае вельмі добры зялёны корм. На ёй я пасу жывёлу на прывязі, як гэта гаварыў аграном; я маю $^{3}/_{4}$

дзесяціны папару, і гэтага хапае для маей скаціны да самага часу касьбы. Каровы заўсёды сытыя і даюць шмат малака. Папар ару, як раіў аграном: пасьля выкі—ў *канцы траўня,* калі зямля яшчэ мокрая і рассыпаецца. Ару глыбока і зараз-жа бараную. Усё лета дзяржу зямлю пухкай ды чыстай ад трауя. Мяшаю тыдні за два да пасеву, каб зямля магла асесьці і ня рваць караньні руні. Сею рана, зараз-жа пасьля першае прачыстае (15 жніўня па стараму стылю), чыстым ды здаровым насеньнем. Ураджаі ў мяне добрыя.

**Трохпалёўка** (*ўстаючы да старшыні*). Дазвольце, грамадзянін старшыня, зрабіць адно запытаньне сьведку.

**Старшыня.** Калі ласка.

**Трохпалёўка.** Скажэце, сьведка, ці не перагрызьлі вы сабе горла, як завадзілі шматпалёўкі, розныя бычыныя таварыствы і іншыя гаручкі? Мне здаецца, што вы вельмі многа хваліцеся сваей арганізованасьцю. Наш народ ня хоча знаць ніякіх вашых таварыстваў, апроч таварыстваў піць гарэлку, іграць у карты, ці праводзіць час ня ў чытальнях, але за плёткамі.

**Бурак.** Праўда, грамадзянка Трохпалёўка. Цяжка было спачатку наладжваць працу, бо наш народ ня вельмі давяраў ўсяму гэтаму новаму, няпрывычнаму. Нейк здатней спачатку яму было час каратаць у корчмах за гарэлкай, ці за картамі. Шмат спачатку было з боку нашага цёмнага суседа розных перашкод, але, як убачыў карысьць ад усяго новага, то хутка пакінуў свае дур-

ныя прывычкі, якія ты яму прышчапіла. Цяпер селянін у нашай вёсцы Весялусе інакш выглядае, інакш глядзіць на рэчы, інакш і думае. Цяпер ён кожную вольную мінуту каратае ня ў Моўшы, а ў розных хаўрусах, ці ў чытальні.

**Старшыня.** Больш пытаньняў да сьведкі ніхто ня мае?

**Усе.** Няма.

**Старшыня.** Сядайце, сьведка.

(*Бурак сядае*).

**Старшыня.** Аграном, грам. Севазваротнік! Суд просіць вас, каб вы ўгрунтавалі ўсе абвінавачаньні, якія зроблены падсуднай Трохпалёўцы Беларускай у абвінавальным акце.

**Севазваротнік.** Першы пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі—гэта вельмі кепскае выкарыстаньне зямельнага запасу краю, дзяржаньне пад папарам $^1/_3$ ўсей зямлі. Калі ў краю ёсьць шмат людзей, якіх мы павінны лічыць малазямельнымі, пакіданьне ў папары траціны зямлі я лічу злачынствам і вялікай стратай для сялянства. Пры правільнай апрацоўцы зямлі і чарадаваньні расьлін можна абыйсьціся і без папару, ён можа быць заняты шпаркарастучай травой, напрыклад азімай выкай. Азімая выка дасьць корм для скаціны ў самы цяжкі час бяскорміцы, а затым звальняе зямлю для апрацоўкі. Апрача гэтага, азімая выка, скошаная на зялёны пошар, узбагачае зямлю, як і ўсе бабовыя расьліны, вельмі каштоўным опажыўным складнікам—азогам, які рась-

ліна бярэ пры дапамозе бактэрыяў на карэньчыках з паветра і пакідае ў зямлі ў форме солі.

Зямля, прыгодная для пасеву, можа штогод выкарыстоўвацца. Падсудная Трохпалёўка апраўдваецца тым, што зямлі патрэбен адпачынак. Гэта правільна, але ж які тут адпачынак, калі зямлю топча жывёла на працягу трох-чатырох месяцаў? Адпачынак будзе толькі тады, калі зямля астаецца рыхлаю, чыстаю ад сьмяцьця і ў поўным супакоі.

Другі пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі, — гэта высіленьне зямлі ад пасеву расьлін аднаго роду: жыта, ячменю, аўса, пшаніцы. Кожная расьліна патрабуе рад пажыўных матэрыялаў. Калі з іх не хапае хоць аднаго, дык расьліна жыць ня можа. Найчасьцей у зямлі не хапае чаго-небудзь з такіх трох матэрыялаў: азоту, паташу і фосфару. Расьліны бяруць матэрыял неаднолькава; напрыклад, жыта, авёс і інш. каласавыя бяруць з зямлі азоту і фосфару вельмі многа, бульба, буракі бяруць многа з зямлі паташу, а выка, канюшына і іншыя бабовыя патрабуюць многа паташу і няшмат фосфару, але могуць абходзіцца без азоту ў зямлі. Трохпалёўка сеяла толькі расьліны каласавыя, якія штогод выцягвалі з грунту азот і фосфар, а паташу многа аставалася нявыкарыстанага, прычым гэтыя спажыўныя складнікі зямлі браліся толькі з верхніх пластоў грунту. Хутка ў зямлі зьявілася перавага паташу і недахват азоту. Каб выкарыстаць усе пажыўныя матэрыялы з усіх

пластоў зямлі, расьліны павінны чарадавацца, а гэта магчыма толькі пры шматпольлі.

Трэцім абвінавачаньнем грамадзянкі Трохпалёўкі зьяўляецца выкарыстаньне папару, як пашы для скаціны, і тое, што папар позна гарэцца. Раньняе ўзорваньне папару ёсьць магутны спосаб барацьбы з засьмечаньнем палёў, неўраджаем, бо яно спрыяе накапленьню спажыўных матэрыялаў у зямлі сіламі прыроды пры дапамозе паветра, воўгкасьці і цяпла. Раньняе гараньне папару ачышчае зямлю ад шкоднага траўя, перашкаджае пладзіцца шкодным жуком і казюлькам, выпраўляе будову зямлі, робіць яе з глыбакаватай, пылаватай, заплываючай пры дажджох—дробна камкаватай. Раньняя апрацоўка і ўзорваньне, як казаў сьведка Бурак, павышаюць ураджай да 100 і болей пудоў. Позьняе ўзорваньне пры трохпалёўцы псуе зямлю. За кароткі час апрацоўкі, зямля не пасьпявае сабраць многа спажыўных матэрыялаў. Нікчэмнае траўё сушыць зямлю, цягне з яе рэшту спажыўных матэрыялаў, і тады бываюць такія ўраджаі, як у сьведкі Нядолі—35 пуд. з дзесяціны, або й нічога ня родзіцца.

Чацьвёрты пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі—гэта засьмечваньне ўсей зямлі шкадлівым траўём і казюлькамі. На позным папары шкадлівыя травы пасьпяваюць узрасьці ды абсеменіцца. Будучы моцнымі і трывалімі, яны буйна разрастаюцца паміж пасевамі і глушаць хлеб, зьмяншаючы ўраджай. Пры шматпольлі пасевы чарадуюцца так, што зернавыя сеюцца пасьля

карань-клубня-плодаў, пасьля якіх зямля робіцца пухлай і ачышчаецца ад траўя. Канюшына, якая сядзіць на полі па 2 гады і больш, таксама глушыць, нішчыць дзікае траўё. Адносна да разьвядзеньня жукоў і казюлек, дык хоць грамадзянка Трохпалёўка і ня лічыць сябе вінаватай, кажучы, што не яна іх стварыла, а бог, але-ж гэта толькі старыя байкі, бо жукі, матылі і казюлькі жывуць і могуць жыць толькі тады, калі для іх жыцьця ёсьць добрыя ўмовы. Напрыклад, матыль азімага чарвяка ў ліпні лётае і кладзе яйкі на папары, дзе расьце траўё—сьвярэпка, бярозка, а таксама і на межах. Калі ў гэты час і папар і межы будуць ачышчаны ад траўя, матыль ніколі не пакіне сваіх яек, а паляціць далей шукаць травы. Пры шматпольлі папар—узараны, чысты, а пры трохпольлі ен зялёны і вабіць да сябе матылёў, якія і кладуць на траве свае яйкі. З яек выходзяць чарвякі, якія зьядаюць сьпярша траўё, а пасьля пераходзяць на пасевы. Так рабіў чарвяк соўкі-гамы (ільняны чарвяк), які ў 1922 годзе паеў выку і інш. Такім чынам, у расплодзе жукоў ізноў вінавата толькі Трохпалёўка, бо яна не дае магчымасьці правільна вырабляць зямлю.

Пяты пункт абвінавачаньня грамадзянкі Трохпалёўкі — гэта сьвядомая адмова ад пасеву караньплодаў. У адраджэньні сельскае гаспадаркі гадоўля жывёлы мае вялізарнае значэньне. Ад гадоўлі жывёлы залежыць і разьвіцьцё паляводатва. Пры правільнай гадоўлі каровы будуць карысна перапрацоўваць корм, прадукты земляробства ў дара·

гія прадукты малочнае гаспадаркі: малако, масла, сыр. Гэта падцьвярджаецца паказаньнем сьведкі Бурака, які мае 4 дзесяціны зямлі, гадуе 4 каровы, з якіх кожная дае 150—180 вёдзер малака і прыносіць гаспадару 400 рублёў золатам прыбытку. Жывёла-ж у сялян ад нястачы добрага корму драбнее і выраджаецца.

Шостае абвінавачаньне: Трохпалёўка задаяржала разьвіцьцё фабрычнае прамысловасьці, што прывяло да вялікага беспрацоўя. Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі дало-б працу шмат людзям і стварыла-б запатрабаваньне на вырабы прамысловасьці, якая павінна была-б разьвівацца і крэпнуць. Для прыкладу можна прывясьці словы сьведкі Бурака: як толькі зьявіліся малочныя прадукты, заразжа для перапрацоўкі іх стварыўся маленькі завод.... я скончыў.

**Старшыня.** Скажэце, грамадзянін Севазваротнік, як можна падняць ураджай пры шматпольлі з травапасевам і захаваньнем усіх іншых умоў правільнага гаспадараньня?

**Севазваротнік.** У нас на Беларусі можна даставаць ураджай да 150 пудоў з дзесяціны. Заграніцай пры тых самых варунках ураджаі даходзяць да 200 пудоў.

**Старшыня.** Да якой вышыні можна давясьці малочнасьць кароў на шматпольлі з травапасевам і караньплоднай гаспадаркай?

**Севазваротнік.** Пры правільным выкармліваньні і гадоўлі ў цёплых хлявох можна дастаць 200—250 вёдзер.

**Старшыня.** (*Да сяброў пракурора і аба-*

*фонца*). Ці ёсьць у вас запытаньні да аграма?

**Пракурор.** Прашу дазволіць.

**Старшыня.** Калі ласка.

**Пракурор.** Ці лічыце вы, што прычынай голаду і недародаў у нас на Беларусі і на Усходзе Эўропы была грам. Трохпалёўка?

**Севазваротнік.** Так, магу пасьведчыць, што асноўнай прычынай, задзержваючай разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, зьяўляецца Трохпалёўка. Прычынай голаду ў нас у 1927 годзе, як роўна частых неўраджаяў на Паволжы, Украіне—лічу яе.

**Абаронец.** Дазвольце запытацца ў агранома.

**Старшыня.** Калі ласка.

**Абаронец.** Ці ня ведаеце, ці ёсьць прыклады пераходу да шматпольля вялікімі вёскамі, ці гэта толькі робіцца ў малых вёсках і хутарох?

**Севазваротнік.** У Маскоўскай, ды Яраслаўскай губэрнях цэлыя паветы яшчэ задоўга да вайны перайшлі на шматпольле, нашы браты Беларусы ў Меншчыне ў апошнія гады таксама цэлымі валасьцямі пераходзяць на шматпольле і вельмі добра вядуць гаспадарку з павялічэньнем ліку жывёлы, гною і павышэньнем ураджаю.

**Старшыня.** Яшчэ пытаньняў да агранома ніхто ня мае?

**Усе.** Няма.

**Старшыня.** Сядайце, грамад. аграном! Судовае сьледзтва абвяшчаю зачыненым. Слова мае абвінавальнік, грамад. Сэпаратар.

**Пракурор**. Грамадзяне Судзьдзі! У гэтай справе я павінен выступіць перад вамі, як прадстаўнік Беларускага сялянства і мільёнаў працуючых, якія горка пакрыўджаны падсуднай Трохпалёўкай. Дзеля гэтага я павінен падрабязна разглядзець усе злачынствы яе.

Як вы чулі, грамадзянка Трохпалёўка на працягу 400 гадоў трымала траціну ўсей зямлі пад папарам бяз усякай карысьці. У гэтым я бачу два злачынствы Трохпалёўкі: першае — захоп зямлі і шкадлівае яе выкарыстаньне, і другое — псаваньне зямлі жывёлай і кепскае яе выробляньне, чым і зьмяншаецца ўраджай да 35 пудоў з дзесяціны, у той час, калі пры правільным севазвароце можна мець 105 — 115 пудоў, а пры выкананьні ўсіх вымогаў, аб якіх казаў аграном, — 150 пудоў. Калі гэта перавясьці на грошы, дык будзе не маленькая сума. Віна грамадзянкі Трохпалёўкі яшчэ большая ад таго, што яна, ведаючы аб малазямельлі і безьзямельлі сялян, усё ж такі марнавала траціну зямлі пад папарам. Апроч вялізарнае матэрыяльнае страты, якую яна робіць штогодна беларускаму народу, яна зьнішчыла Паволжа і Украіну, якія лічацца жытніцамі Эўропы, зрабіла там пусткі, загубіла мільёны народу, згінуўшых ад голаду і пошасьці.

Тут, на судзе, Трохпалёўка гаварыла, што, калі зямля кепская ды ня будзе дажджу, дык ніякі аграном не дапаможа. Але-ж вы, грамадзяне судзьдзі, чулі ад сьведкі Бурака і ад агранома, што гэта хлусьня. Сьвед-

ка Бурак сказаў, што ў яго і яго суседзяў былі такія-ж кепскія ўраджаі, пакуль ён дзяржаўся трохпалёўкі, і ўраджаі павялічыліся, калі ён перайшоў на шматпольле.

Аграном лічыць, што Трохпалёўка вінавата і ў тэй бядзе, што здарылася па Паволжы і на Украіне. Гэта яна сушыла зямлю, гэта яна распладзіла шкоднае траўё, казюлек, жукоў якія паелі ўраджай. Да гэтага трэба дадаць, як гэта сьцьвярдзіў сьведка Бурак, што трохпалёўка, задзержваючы эканамічнае разьвіцьцё нашага народу, спрыяе гэтым самым нашай цемнаце і розным дурным прывычкам, як п янства, карцёжная гульня і другія шкодныя гульні.

Усе гэтыя злачынствы Трохпалёўкі вымагаюць кары і найцяжэйшае кары. Наш карны кодэкс ня мае гэтакай кары, якую заслужыла Трохпалёўка. Гэткай кары няма, бо самая найцяжэйшая кара будзе за малая для гэткай злачыннай кабеты. Вы, грамадзяне судзьдзі, павінны з коранем вырваць гэтае ліха і ратаваць сялян ад гэтае агіднае злачыньніцы. Ад імя Беларускага працоўнага народу я вымагаю ад вас найвышэйшай кары, я вымагаю кары сьмерці, каб Трохпалёўку зьнішчыць!

**Старшыня.** Абаронца, грамадз. Гаварушка, вашае слова!

**Гаварушка** Грамадзяне судзьдзі! На маю долю выпала вельмі цяжкая задача—бараніць злачыньніцу, вялізарныя злачынствы якое даведзены. Але, грамадзяне судзьдзі, няма такога злачынства, якое нельга было-б апраўдаць. Мая абарона мае мэту не ратаваць ад

кары грамадзянку Трохпалёўку, а толькі абмячыць яе долю. Грамадзянцы Трохпалёўцы каля 400 гадоў. Яна распачала жыцьцё тады, калі зямлі было многа, а людзей мала. Гаспадарка тады вялася проста. І Трохпалёўка тады ня толькі ня шкодзіла гаспадарцы, але навет ёй дапамагла. Дапамагла яна тады сялянам тым, што неяк упарадкавала пасевы на полі, бо да яе сяляне сеялі бяз усякага парадку, бяз усякай сыстэмы. Дык вось, як бачым, Трохпалёўка калісьці была для гаспадаркі прагрэсам. А што яна цяпер аджыла свой час, і гэты час мусіў-бы настаць шмат раней, дык гэта тлумачыцца тым, што нічога на зямлі няма вечнага. Праўда, што цяпер грамадзянку Трохпалёўку цярпець болей немагчыма, а нават праступна, бо істнаваньне яе ў сучасны мамэнт пагражае самому істнаваньню нашай Бацькаўшчыны, нашаму Беларускаму Народу. Яе даўно ўжо трэба было выгнаць з нашае Бацькаўшчыны, і калі гэтага не зрабілі, то толькі дзякуючы несьвядомасьці нашых сялян, якія верылі ды пакуль-што і цяпер вераць розным забабонам і чмутам. Палепшаньне гаспадаркі залежыць ад асьветы народу. А дзе гэта асьвета для народу? Сколькі мы маем сваіх беларускіх школ, бо ў чужых, вядома кожнаму, мы знаньня атрымаць можам ня так добра? Дзе школы сельска-гаспадарчыя? Дзе аграномы, якія зрабілі дзівы загранічай і ў апошнія часы робяць у нашых братоў-менчукоў? Знаёмства з іншымі спосабамі зямля карыстаньня ня было і няма. Сьмешна і грэшна прызнацца, але наш народ аб іх, бадай, і ня

чуў. Аб траве ён толькі чуў, што ёсьць бабы-шаптухі, якія ўжываюць траўкі і зёлкі, каб лячыць скаціну, але ж і пра гэта народ нічога добра ня ведаў, а чуў звон, ды ня ведаў скуль ён. Я бараню старую кабету, якая шмат благога зрабіла, але спытайцеся ў яе: ці ведала, што яна рабіла злачынства? Я прашу Беларускі Народны Суд, на сьцягу якога напісана „Справядлівасьць", выявіць гэту справядлівасьць тут і аблягчыць долю старое, прыняўшы пад увагу яе несьвядомасьць, цемнату і неадказнасьць у сваіх дзеяньнях.

**Старшыня.** Падсудная, грамадзянка Трохпалёўка, што вы скажаце суду ў сваё апраўданьне?

**Трохпалёўна.** Грамадзяне судзьдзі! Я ўжо старая. Я працавала, як магла, як хапала сілы. Праца мяне зрабіла гарбатай... Я лічыла, што я карысна для грамадзянства. Я ня ведала, што тое, што я раблю, ёсьць злачынства. Прашу вас, грамадзяне судзьдзі, даць мне магчымасьць самой памёрці...

**Старшыня.** Суд выходзіць на нараду. (*Перарыў 10 хвілін. Судзьдзі выходзяць*).

**Судовы возны:** (*які астаўся на сцэнс*) Суд ідзе. Прашу ўстаць. (*Уваходзяць судзьдзі*).

**Старшыня.** Імем Беларускага Народу, суд у складзе Старшыні Антося Высокалітоўскага, сяброў: Ігнася Лубіновіча і Сымона Сэрадэленькі . . . . . . 192 . . году разглядзеў справу па абвінавачваньню грамадзянкі Трохпалёўкі ў злачынствах, якія зрабілі вялікую шкоду сельскай гаспадарцы і сялянам, і ўсе гэныя злачынствы грама-

**дзянкі Трохпалёўкі прызнаў даведзенымі і падлягаючымі . . артыкулу Карнага Кодэксу, дык на падставе арт. 65, 171, 116, 356 таго-ж Кодэксу пастанавіў: Трохпалёўку расстраляць** (*пауза 10 секунд*), **але ўзяўшы пад увагу не старасьць і шчырае каяньне, суд пастанавіў памеяшыць кару і замест кары сьмерці—выгнаць Трохпалёўку за межы Беларусі. Пастанова канчатковая. Паседжаньне суда лічу зачыненым!..**

*Заслона.*



# Тэатральная бібліятэчка Зах. Беларусі.

1. **Л. Родзевіч.** „Сцэнічныя творы" (Зьбянтэжаны Саўка. Пасланец. Конокі партрэт) Выдавецтва У. Знамяроўскага. Вільня 1926 г. Цана 60 гр.

2. **Розных аўтараў.** „Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатру". Выдавецтва У. Знамяроўскага. Вільня 1926 г. Цана 50 гр.

3. **К. С.** „Янка Канцавы"—вяковая драма ў 5 дзеях. Выданьне Беларускага Грамадзкага Сабраньня. Вільня 1924 г. Ц. 50 гр.

4. **Янка Купала.** „Раскіданае Гняздо" — драма ў 5 актах. Вільня 1919 г. Ц. 1 зл. 20 гр.

5. **Яго-ж.** „Паўлінка", сцэны са шляхоцкага жыцьця ў 2-х актах. Выданьне І. Мятла. Вільня 1927 г. Цана 70 гр.

6. **Карусь Каганец.** „У іншым шчасьці няшчасьце схавана". Выданьня Белар. Выд. Т-ва. Вільня 1919 г. Цана 20 гр.

7. **Ул. Гутоўскі.** „Сурдут і Сярмага" — драматычны абразок з песьнямі і танцамі, ў 3-х актах. Выданьне Беларукага Выд. Т-ва. Вільня 1922 г. Цана 70 гр.

8. **Фр. Аляхновіч.** „Шчасьлівы муж", — камэдыя ў 4-х актах. Выданьне Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка ў Вільні. Вільня 1922 г. Цана 75 гр.

9. **Фр. Аляхновіч.** „Страхі жыцьця", драма ў 3-х актах. Вільня 1919 г. Цана 40 гр.

10. **Фр. Аляхновіч.** „Птушка шчасьця", п'еса ў 3-х актах са сьпевамі і танцамі. Выданьне Беларускага Музыкальна Драматычнага Гуртка. Вільня 1922 г. Цана 40 гр.

11. **Фр. Аляхновіч.** „Пан міністар", камэдыя ў 2-х актах. Выданьне газэты „Голас Беларуса". Вільня 1924 г. Цана 60 гр.

12. **Фр. Аляхновіч.** „Няскончаная дра-

**ма**", п'еса ў 4-х актах. Выданьне Белар. Выдав. Т-ва. Вільня 1922 г. Цана 1 зл.

13. **Фр. Аляхновіч.** „Заручыны Паўлінкі", п'еска ў адным акце з песьнямі і скокамі. Адбітка з „Беларускага Звону". Вільня 1921 г. Цана 35 гр.

14. **Фр. Аляхновіч.** „Дрыгва", драматычны эскіз у 6-х абразох. Выданьне Белар. Часовае Рады. Вільня 1925 г. Цана 1 зл. 50 гр.

15. **Фр. Аляхновіч.** „Калісь", сцэнічны абразок у 2-х актах. Вільня 1919 г. Ц. 60 гр.

16. **Галубок.** „Апошнее спатканьне", драма ў 4-х актах. Вільня 1919 г. Цана 40 гр.

17. **Галубок.** „Суд", п'еса ў 1-м акце. Выд.Белар.Выдав. Т-ва. Вільня 1927 г. Ц. 60 гр.

18. **К. Вясёлы.** „Ня розумам сьцяміў, а сэрцам". П'еска з вяскова жыцьця ў 4-х актах. Выд. П. Мятлы. Вільня 1927 г. Цана 50 гр.

19. **А. Васілеўскі.** „Дахапалiся", правінцыяльныя абразкі з нядаўняй мінуўшчыны, Выд. А. Яцыны, Вільня, 1927 г. Цана—30 гр.

20. **Розных аўтараў.** „Сцэнічныя творы" (Боты, Мікітаў лапаць, Пакой у наймы, Чорт і баба), Выд. „Пагоня", Вільня, 1927 г. Цана 1 зл. 20 гр.

21. **Sałaŭjowa.** „Cudoŭnaja noč", sceničny twor dla dziaciej, Wyd. „Bieł. Krynicy", Wilnia, 1927 h. Cana—50 hr.

22. **A. Wasileŭski.** „Batlejka", sceničnaja štuka ŭ 5 źjawach. Cana—50 hr.

23. **М Гарэцкі.** „Атрута", п'еса з вясковага жыцьця ў 1 акце. Выд. Белар. Выд. Т-ва, (друкуецца).

Усе гэтыя кніжкі можна выпісаць з кнігарні Беларускага Выдавецкага Т-ва, Вільня Вострабрамская 1, а такcама набыць у аддзелах кнігарні ў Вялейцы і Наваградку.

На перасылку асобная даплата.

